Факсы из Германии

## Оказывается, Гете не был демократом

В юбилейный год, когда отмечается 250-летие со дня рождения Гете, стали известны неприглядные подробности биографии классика. Так, гениальный поэт на постах тайного советника герцога и министра обороны зажимал свободу, продавал заключенных в Америку в качестве рабов, настаивал на смертной казни, завел "дело" на своего лучшего друга Шиллера, участвовал в гонениях на Гердера и Фихте.

## Не целуйтесь...

Президент берлинской Врачебной палаты Лете заявил о том, что поцелуй, наряду с потреблением сладостей, является основным источником кариеса и пародонтоза. Эти болезни зубов и десен часто вызываются бактериями, передаваемыми при поцелуях.

## В XXI веке главным топливом будет водород?

Водород будет важнейшим топливом следующего тысячелетия, считает концерн Royal Deutsch/Shell и планирует уже в этом году создание предприятия по внедрению водородной технологии в жизнь. Первая водородная заправка в Германии будет сооружена в Гамбурге.

**Л.ЧЕРЕПОВИЦКИЙ,**
**собственный корреспондент "Народной воли" в Федеративной Республике Германия.**

# С днем рождения, госпожа "FACOM"!

***Франко-американская фирма по производству механического оборудования "Facom" празднует в этом году свою восьмидесятилетнюю годовщину. Бодрая старушка породила многочисленное потомство, свято соблюдающее семейные традиции. Знаменитая парижская фирма — это не только марка, это прежде всего образец для подражания. Предприятие по праву занимает первое место в Европе среди фирм, производящих ручные инструменты.***

Сотрудники фирмы до сих пор с большим уважением говорят о первом инструменте "Мадам 101" — французском разводном ключе железнодорожников, выпущенном "Facom". Конечно, он очень похож на американский разводной гаечный ключ "Clyburn", который во Франции называется "английским" (тридцатисантиметровый ключ из кованого железа). Однако именно он принес предприятию успех.

История фабрики началась в Париже в маленькой мастерской неподалеку от Лионского вокзала. Весь персонал едва насчитывал десять человек. Очень быстро скромный разводной ключ с роликом стал пользоваться таким успехом, что владелец мастерской Луи Мозес стал подумывать о расширении предприятия. Он делает ставку на автомобильную промышленность и самолетостроение. Фабрика приступает к выпуску разводного гаечного ключа с зубчатой рейкой для "Рено" и заключает контракт с фирмой "Пежо" на выпуск разводных гаечных ключей с деревянными ручками. С этого момента и начинается восхождение фирмы. Новинки идут одна за другой: плоский гаечный ключ, торцовый трубчатый гаечный ключ, накидной гаечный ключ... В 1933 году "Facom" становится поставщиком только что родившейся авиационной компании "Air France". По этому случаю Луи Мозес заказывает новый фирменный знак предприятия: крылатый болт — символ динамизма и новаторства, гарантия надежности и безопасности.

В пятидесятые годы на смену Луи Мозесу приходит его сын Андре, с именем которого связана новая эпоха. Фирма выходит на международную арену. Некий Иф Кароф делает заявку на изобретения, которые ждет большое будущее: ключ с защелкой и тиски. Он также усовершенствует старый разводной гаечный ключ с зубчатой рейкой. По инициативе Андре Мозеса составляется каталог "Facom", ставший настоящей "библией мастерских". А на дорогах Европы появляются знаменитые грузовички фирмы, рекламирующие ее продукцию. Андре Мозес организует первую сеть дистрибьютеров. Задолго до других предприятий Мозес стремится заинтересовать рабочих в результатах работы предприятия. Вот почему "франкомары" преданно служат фирме. А в 1952 году он начинает выпускать оборудование с пожизненной гарантией. Все это помогает фирме создать прочную репутацию.

С интернационализацией рынков меняется стратегия предприятия. В 1970 году открываются филиалы в Бельгии и Германии. За ними следуют коммерческие представительства в Италии (1971 г.), Англии, Голландии (1977 г.), Швейцарии (1981 г.), Америке (1982 г.) и Испании (1988 г.). В 1983 году "Facom" выходит на первое место среди предприятий, производящих механическое оборудование в Европе, и на третье место в мире. Каталог фирмы насчитывает в настоящее время более 8500 наименований. Фирма имеет заводы во Франции, Америке и Великобритании (всего двадцать один завод). "Мадам 101" теперь может смело уйти на заслуженный отдых. За восемьдесят лет своего существования фирма "Facom" всегда шла в ногу со временем в самых разных областях: в механике, машиностроении, самолетостроении, железнодорожном транспорте, новейших технологиях. Фирма принимала участие в крупнейших стройках века. "Facom" — конструктор бесконечно малых и бесконечно больших инструментов — вошла в вечность.

**Анн-Софи ЖАРРИЖ.**

*(Материал подготовлен при содействии Посольства Франции в Республике Беларусь.)*

## Вот так шпион

Похоже, что все, кому не лень, пытаются вывезти какие-либо технологии из США. Жан Виспилер, бывший служащий разведывательного управления Австралии, обвиняется в шпионаже на территории Америки. Он продал 713 секретных документов на сумму 120.000 долларов. Виспилера поймали из-за его собственной недальновидности. В январе этого года в Тайланде он зашел в иностранное посольство (страна не разглашается) и предложил на покупку некие секретные документы, принадлежавшие Штатам. Из посольства тут же позвонили в США. Американцы подослали своего человека, после чего и взяли Виспилера прямо в момент совершения сделки. Наказанием может стать пожизненное заключение или высшая мера.

## Загадка Элизабет Фейл

Бывший тюремный психолог Балтимора, 43-летняя Элизабет Фейл, помогла сбежать из тюрьмы двум заключенным. И хотя обоих уже отловили, расследование факта побега — в самом разгаре.

Подозрение пало на психолога, поскольку ее весьма откровенные фотографии в немалом количестве были найдены в камере одного из сбежавших. Муж Элизабет опознал снимки, сделанные, по его словам, 11 лет назад. При побеге заключенные умудрились перелезть через два забора, окружавших тюрьму, по верху одного из которых шли спирали колючей проволоки. Упорства им было не занимать, ведь один из них отбывал 29-летний срок за вооруженные ограбления, а второй — пожизненное заключение за убийство. Какие мотивы могли руководить Фейл, когда она помогала заключенным бежать, остается загадкой.

Снимок из Югославии



*"В бункер Милошевича бомбы не падают, зато сколько горя принесла война этому простому человеку..."*

Нявыдуманыя гісторыі

"Быў час, быў век, была эпоха...". Так з сумам сказана ў сатырычнай паэме "Сказ пра Лысую гару". Ёсць у ёй і такія радкі:

*Ды паспрабуй ты праўду ляпнуць —*
*Цябе стаўкуць на груцу ўраз!*
*Як кажа ставер: "Тамбу-ламбу,*
*Глядзіш — і спёкся папуас!..*

Многія "спякліся". А многім рот затыкалі, патрабавалі пісаць, гаварыць "што трэба". Надараліся і камічна-трагічныя гісторыі. Гэта я таксама ведаю па сабе.

## Куды вецер

Рукапіс сваёй кніжкі "Прыгажосць — побач" я занёс у выдавецтва "Ураджай". Загадчыца аддзела К.Мішанава праз колькі часу сказала мне далікатна:

— Нам рукапіс спадабаўся. Вы прыгожа напісалі пра прыроду. Вось толькі, — запнулася, — каб на рускай мове.

— Пра беларускую прыроду, — даводжу, — няёмка пісаць не па-беларуску.

— Нічога, людзі зразумеюць.

— Але ж яны і па-беларуску зразумеюць.

Кацярына Арсеньеўна настойвала, пачала даказваць, што на рускай мове кніга лепш разыдзецца, што будзе большы тыраж, а мне лепш заплацяць. Я не здаваўся.

— У такім разе, — сурова заключыла загадчыца, — мы рукапіс не можам прыняць.

Барыс Ульянка, галоўны рэдактар выдавецтва, з якім я вучыўся ў БДУ на сумежных курсах, развёў рукамі:

— Кацярына Арсеньеўна мае рацыю.

Давялося засесці на пару тыдняў і перакласці свой рукапіс на рускую мову. Пры сустрэчы, калі кніжка ўжо была ў магазінах, Б.Ульянка задаволена пацiснуў мне руку:

— Атрымалася — што трэба, гады праз тры перавыдадзім.

Праз тры гады не стала Савецкага Саюза. Пачаўся паварот да беларускай мовы. Рэдактар кніжкі Т.Мухіна летуценна сказала:

— Вось бы, Мікалай Іванавіч, перавыдаць вашу "Прыгажосць — побач" па-беларуску. Як гэта добра было б.

Барыс Ульянка:

— Давай выдамо па-беларуску. Мы знойдзем табе добрага перакладчыка.

— Вы што тут усе — ачмурэлі? Я ж здаваў рукапіс на беларускай мове. Што ты тады сказаў? А цяпер перакладчыка мне раіш? Ці я мовы сваёй не ведаю? Не, Барыс, ішло першае выданне па-руску, няхай і другое будзе такім.

Вось такая яна, выдавецкая прынцыповасць. Куды вецер падзьме.

А што мне было рабіць? Выбар невялікі: альбо выдаць кніжку, альбо пахаваць рукапіс у шуфлядзе.

## Не, без Ільіча нельга

"Стваральнікі" — першая мая брашура. У ёй расказана пра радавых працаўнікоў, кіраўнікоў "ніжэйшага звяна". Яны, людзі стваральнай працы, на сваіх плячах, як тыя атланты, трымалі Савецкую ўладу. Ды і цяпер трымаюць.

Тады ж лічылася, што ўсё робіць партыя, мудры ЦК і асабіста генсек Л.Брэжнеў. Калі рукапіс у выдавецтве "Беларусь" быў падрыхтаваны да друку, мяне паклікала рэдактар Г.Пасядовіч.

— Усё добра, прэтэнзій няма, — сказала Галіна Макараўна. — Толькі адно трэба ўзгадніць. Мы не можам выдаць без цытаты Леаніда Ільіча.

— Чаму? — вырвалася ў мяне. Гэтага генсека я ненавідзеў люта. Усе мае сябры-таварышы, якія прачытаюць цяпер такое маё прызнанне, могуць пацвердзіць, што і як я гаварыў пра яго тады.

— Ну, вы ж самі разумееце, — сказала Галіна Макараўна, — якая ў нас сітуацыя. Без яго цытат нішто не друкуецца. Мы падабралі адпаведную.

Праўда, цытата была бяскрыўдная: аб значэнні індывідуальнай творчасці ў працы. Але ўсё роўна мне стала непрыемна.

## Ляпнуў праўду

Нам, уласным карэспандэнтам "Мінскай праўды", давяралі па чарзе рабіць на "лятучках" агляды газеты. Я, як гаворыцца, з маладым запалам, з "адкрытым забралам" сказаў тое, што думаў пра апублікаваныя матэрыялы. У час свайго выступлення не заўважыў, што ў пакоі, у якім сабраўся ўвесь калектыў рэдакцыі, стала ціха-ціха. Пасля лятучкі Пятро Барташэвіч, які вучыўся ў БДУ крыху пазней за мяне, спытаў:

— Што ты нарабіў? Хіба ты не ведаў, што два перадавыя артыкулы, якія ты крытыкаваў, напісаў Агееў? А ён жа злапамятны. Дабра не чакай.

Праз тыдзень-другі мне пазванілі ў Нясвіж з абкама партыі. Сказалі, што прапануюць мне пасаду рэдактара райгазеты ў Валожыне і што я павінен прыехаць у абкам. "Вось табе і "дабра не чакай", — падумаў я.

У прыёмным пакоі загадчыка аддзела прапаганды абкама Ю.Міхневіча таўпілася некалькі кандыдатаў у рэдактары і на іншыя пасады. Я з цікавасцю паглядзеў на Юрыя Міхайлавіча: ён нядаўна стаў "героем", як кажуць, пагарэў... І яго з пасады міністра культуры адправілі ў абкам партыі. Лабасты. Рухавы. Энергічны.

Ад пасады ў Валожыне я адмовіўся. Ю.Міхневіч настойваў.

— Я нядаўна працую ўласным карэспандэнтам, толькі ўваходжу ў курс. Работа падабаецца, у рэдакцыі да мяне ставяцца добра.

— Якраз і не добра, — паглядзеў мне ў вочы Міхневіч.

Мне ўсё стала зразумелым.

— Дазвольце, — кажу, — крыху падумаць.

З аўтамата я пазваніў Агееву:

— Іван Мінавіч, я ўсё зразумеў. Я ведаю, чаму Міхневіч гоніць мяне рэдактарам у Валожын. Гэта за маю крытыку вашых перадавых артыкулаў.

Агееў маўчыць. Тады пытае:

— То што ты хочаш?

— Хачу, каб вы пазванілі Міхневічу, і ён ад мяне адчапіўся.

Зноў паўза. Я ўяўляю, як рэдактар моршчыць лоб, як ён прыжмурыў вочы. Засяроджана разважае.

— Добра, — уздыхнуў. — Калі ты такі разумны, то ідзі да Міхневіча, я зараз яму пазваню.

Міхневіч зірнуў на мяне з-пад ілба:

— Вы свабодны, едзьце ў Нясвіж.

Так пазбаўляліся ад людзей нават за бяскрыўдную, прафесійна-таварыскую крытыку. Мінулі дзесяцігоддзі, а такое і цяпер творыцца.

## І заплакаў...

Шмат давялося мне пабачыць на сваім вяку. Але той выпадак арыгінальны, непаўторны.

Паэт Паўлюк Прануза, які жыў тады ў Нясвіжы, напісаў сатырычна-гумарыстычны верш. У ім высмеяў старшыню калгаса, які раз'язджае ў шыкоўнай машыне, а калгаснікам на працадні плацяць капейкі. Верш надрукаваў у раённай газеце.

Сустрэўся я з Паўлам Кузьмічом, і ён, смеючыся, расказвае:

— Пасля публікацыі верша заявіўся да мяне на кватэру Дзідзевіч — старшыня калгаса "Шлях да камунізму". Пачаў скардзіцца, пытаць, за што я яго зняславіў на ўвесь раён. Даводзіў, што яго калгаснікі добра зарабляюць. "Ды я не пра вас пісаў, — даводжу. Гэта абагульнены сатырычны вобраз". "Ага, — адказвае Уладзімір Аляксандравіч, — абагульнены. А такой машыны, ЗІМА, як у мяне, ва ўсім раёне больш няма". І пакрыўджана заплакаў.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

Громкое дело

# После объявления приговора Василий Старовойтов произнес: "Я больше никому не верю..."



Вынесен приговор по первому из серии громких дел, находящихся под личным контролем главы белорусского государства. Один из крупнейших специалистов в области сельского хозяйства, дважды Герой труда, участник Великой Отечественной войны Василий Константинович Старовойтов объявлен судом преступником. Причем искупление вины и перевоспитание его будут проводиться в колонии усиленного режима. Приговор предусматривает также конфискацию имущества и лишение после выхода на свободу права занимать руководящие должности еще в течение трех лет.

Руководитель знаменитого "Рассвета", почетный академик Академии управления (ныне она при президенте Республики Беларусь) Василий Старовойтов признан судом виновным в хищении имущества, даче взяток, контрабанде, сокрытии доходов, злоупотреблении служебным положением, превышении власти, выманивании кредитов — аж по восьми статьям Уголовного кодекса, предусматривающим в сумме до 60-ти лет лишения свободы. По четырем статьям УК: незаконное хранение оружия, нарушение порядка предпринимательской деятельности и выпуск в продажу недоброкачественных товаров — с общим сроком еще до 12-ти лет лишения свободы — суд признал обвинение недоказанным.

Но за такой вот "букет" инкриминируемых преступных деяний, тянущих на более чем 70 лет лишения свободы, прокурор потребовал лишь пять лет. Суд назначил и того меньше — два года. А учитывая, что Василий Старовойтов 18 с половиной месяцев был лишен свободы "авансом", еще будучи лишь обвиняемым в совершении преступления, фактическое наказание суда составляет пять с половиной месяцев. Заканчивается срок лишения свободы Василию Константиновичу 11 ноября 1999 года.

Получается, что для того чтобы объявить наказание сроком лишения свободы менее полугода, убеленного сединой участника Великой Отечественной войны держали перед этим в тюремной камере более полутора лет (!). Такое вот правосудие по-белорусски.

Судебный процесс над Василием Старовойтовым длился полгода. Физическая и эмоциональная нагрузка на служителей Фемиды была такова, что при зачтении приговора делали перерывы по причине... резкого ухудшения самочувствия участников состава суда. Тем не менее судьи Чмара, Козлов, Свирко остались глухи к словам судимого ими больного белорусского дважды Героя: "Тяжело мне. Дайте хоть пройти по воздуху, по солнцу". А ведь Василию Старовойтову через десять дней, 13 июня 1999 года, исполняется 75 лет. Свой юбилей этот прославленный организатор сельского хозяйства, судя по всему, будет встречать в СИЗО — этапировать в колонию его могут не успеть.

Василий Константинович очень надеялся на суд и потому старался давать самые подробные показания. Надеялись трудовые коллективы, общественные, международные организации, направившие ходатайства в суд о проявлении гуманности к этому заслуженному ветерану. К глубокому сожалению, белорусский суд в списке самых гуманных судов планеты не числится. И после объявления приговора Василий Старовойтов произнес: "Я больше никому не верю...".

А в самом деле, за что же осудили Василия Старовойтова? Ведь суд признал его виновным в хищении в особо крупных размерах, минимальное наказание за которое 8 лет, и в даче взяток, минимальное наказание за которые 7 лет. По статье "Контрабанда" В.Старовойтов признан организатором преступления и в таком случае речи не должно быть о минимальном сроке. Исходя даже из трех этих статей (а всего их восемь), наказание явно не соответствует тяжести инкриминируемых и установленных судом преступлений.

Может, суд просто-напросто спасал честь мундира громадной следственной группы, созданной по распоряжению высшего руководства страны, которая за целый год своей деятельности так и не смогла дотянуть это политическое по сути дело до громкого уголовного? Косвенным свидетельством этого является то, что колхоз "Рассвет" так и не подал иска о нанесении ему ущерба бывшим руководителем хозяйства Василием Старовойтовым.

**Валерий ЩУКИН,**
**правозащитник.**

**От редакции**:

*"Я больше никому не верю..." Больно слышать эти слова от такого человека, как Василий Константинович Старавойтов. Человека, который за 75 лет ни разу не изменил родной земле. Ни тогда, когда воевал за Отечество, ни после войны, когда остался в селе.*

*Мог стать райкомовским начальником — не пошел.*

*Мог занять кресло секретаря обкома партии — не потянуло.*

*Светили высокие должности в Минске — уступал место другим.*

*Сколько в Беларуси таких председателей колхозов, которые до глубокой седины остались верны деревне? Единицы. И все они, если оценивать по заслугам, имеют стопроцентное право на полное обеспечение своих нужд со стороны державы.*

*А тут судили такого человека! И все знают, за что... Нет, не за угощение чиновников из райцентра, области, столицы, не за какие-то финансовые нарушения... Если бы судили за первое, то в клетке вместе с В.К.Старовойтовым должны были бы сидеть и те, кто принимал угощения.*

*Судили Василия Константиновича Старавойтова за его характер. Простой, открытый... За то, что мог сказать правду в глаза любому. За то, что первым произнес: "Нет такой силы, которая может заставить человека хорошо работать в колхозе". А власти нужны колхозы...*

*Как хочется, чтобы вера в хорошее, светлое, справедливое не покинула этого известнейшего человека. Крепитесь, Василий Константинович!*

Міні-рэцэнзія

## "Прымакі-2"

Жахам скрозь смех можна назваць спектакль "Прымакі-2", які на сцэне Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра Беларусі паставіў рэжысёр Алесь Чацвёрка. Памкненні ды ўчынкі персанажаў, што воляю паэта ўзніклі ў 1913 годзе, абсалютна надаюцца нашым сучаснікам, героям дня сённяшняга.

Безумоўна, спектакль мае ўсе прыкметы эпатажу. Дае ўсе падставы для глядацкага шоку і для крытычных заўваг.

На Сёмуху, набраўшыся гарэлкі, як свіння гразі, кумы пасварыліся з-за жонак, а потым ладзяць і... вырашаюць імі памяняцца.

Жорсткі сацыяльны фарс. Вядома, з эратычнаю афарбоўкаю — а куды падзенешся ад жыцця?

У характарных, каларытных ролях бацькоў заняты Э.Сакура, А.Акулёнак, С.Шаранговіч, В.Емяльянаў. Гаварыць, адчуваць, рухацца, прымаць рашэнні, святкаваць, памінаць Бога ды школіць дзяцей гэтыя бацькі здатныя, толькі бясконца куляючы па чарцы ці шклянцы. П'яныя яны ўсё адно як запраграмаваныя на свае прымітыўныя дзеянні. За бацькамі, наступаючы на пяты, крочаць дзеткі...

Усе персанажы раз-пораз запалохваюць адзін аднаго, усе дэманструюць агрэсію, утвараючы "свет невымерных жэстаў, змрочных разважанняў, агрэсіўнай сентыментальнасці". Кабеты ўсхадзіліся між сабою, мужчыны разбіраюцца з імі і з дзецьмі, дзеткі-падлеткі падпарадкуюцца. Журлівая метафара сучаснага жыцця паўстае са сцэны бессэнсоўнай п'янай бойкай, дзе кожны — за сябе. Кожнаму — ягонае. Каб толькі суседу лепей не было. Яны — нашы сучаснікі, што родам і радаводам з 1913 года, працуюць, нараджаюць, выбіраюць уладу і мову, спадзяюцца на лепшае, хочуць "людзьмі звацца"...

Потым, паводле ўяўленняў герояў, паўстае іншы свет: аперэтачны рай. Беларусы бегаюць у споднім з дудачкамі, анёл (ці сам архангел?) за кнігаю прамаўляе біблейскія радкі, а ўнізе варыцца грэшніца, побач два чорты шныраюць з шуфлямі і робяць выгляд, што дужа яе мучаць, а яна, што пакутуе. Характэрна, што з таго свету, з яго пякельнага месцішча з'яўляюцца "вартаўнікі парадку"... бараніць так званую законнасць. А кайстры, велізарныя, наладаваныя кайстры хабару — падарункі ад народа — чакаюць іх ад самага пачатку сцэнічнага дзеяння. Падрыхтаваныя, так бы мовіць, загадзя, па звычцы ды на ўсялякі выпадак...

Усім хаўрусам, гуртам, кодлам яны не памкнулі б уступіць у спрэчку з тым, у чым іх так жорстка ды ўладарна пераканаў свет, — імі ж апеты і ўслаўлены свет невымерных жэстаў ды агрэсіўнай сентыментальнасці. Яны яшчэ не выблукалі з балотаў. Іх мазгі яшчэ не працвярэзіліся...

**Жанна ЛАШКЕВІЧ.**

Закулісье

# Дзяржкамітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей прапанаваў ураду перагледзець адносіны ўладных структур з Саюзам палякаў Беларусі

Кіраўніцтва нацыянальна-культурнага аб'яднання Саюз палякаў Беларусі (СПБ) заклапочана магчымым змяненнем стаўлення ўлад да сваёй арганізацыі. Гэтая заклапочанасць выклікана наяўнасцю дакумента "Аб дзейнасці Саюза палякаў і ўзаемадзеянні з ім", які Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей накіраваў у Савет Міністраў рэспублікі.

У гэтым дакуменце аналізуецца дзейнасць СПБ — найбуйнейшага ў краіне нацыянальна-культурнага аб'яднання. Адзначаецца, у прыватнасці, што старшыня Саюза палякаў Тадэвуш Гавін "актыўна ўдзельнічае ў палітычнай дзейнасці на баку радыкальных апазіцыйных сіл", прычым асноўнай матывацыяй дзеянняў старшыні СПБ "з'яўляецца быццам бы парушэнне правоў грамадзян польскай нацыянальнасці ў Рэспубліцы Беларусь". Найбольшая колькасць канфліктаў з удзелам СПБ, адзначае Дзяржкамнац, узнікае ў сферы адукацыі. "Абумоўлена гэта у асноўным тым, што Саюз палякаў не сувымярае свае патрабаванні з магчымасцямі дзяржавы і ўмовамі, што склаліся", — гаворыцца ў дакуменце.

Паводле звестак БелаПАН, з 1996 года на сродкі СПБ і сусветнай польскай дыяспары ў Беларусі створаны дзве польскамоўныя школы — у Гродне і Ваўкавыску. Пытанне аб будаўніцтве яшчэ адной такой школы — у Навагрудку, дзе жывуць каля 1,5 тысячы палякаў, — дагэтуль не вырашана. Нагадаем, што беларускае заканадаўства абавязвае дзяржаву ў выпадку жадання бацькоў дзіцяці стварыць умовы для навучання яго на роднай мове. У дакуменце ж Дзяржкамнаца гаворыцца, што "якіхсьці сур'ёзных падстаў для стварэння школы з польскай мовай навучання не існуе".

Ёсць, на думку прадстаўнікоў камітэта, і яшчэ адна праблема — "асаблівая ўвага", якую надаюць вучням такіх школ СПБ, дыпламатычныя прадстаўніцтвы Польшчы, розныя польскія дабрачынныя арганізацыі і фонды, а таксама каталіцкая царква. "Пастаянныя падарункі вучням і іх бацькам, выезды летам на аздараўленне ў Польшчу і г.д. выклікаюць у іх пачуццё выключнасці і прывілеяванасці, а ў іх равеснікаў, якія навучаюцца на дзяржаўных мовах, — уяўленне аб прэстыжнасці польскамоўнай адукацыі і ўсяго польскага", — гаворыцца ў дакуменце.

Сур'ёзнымі праблемамі Дзяржкамнац таксама лічыць "больш нізкую паспяховасць вучняў, якія навучаюцца на польскай мове, у параўнанні з равеснікамі, якія атрымліваюць адукацыю на дзяржаўных мовах", стан патрыятычнага выхавання ў польскамоўных класах і адсутнасць належнага кантролю за працай пазашкольных устаноў СПБ.

Кіраўніцтва СПБ, падкрэслена ў запісцы, пайшло на абвастрэнне адносінаў з дзяржаўнымі органамі і актыўна ўдзельнічае ў мерапрыемствах апазіцыі. З гэтай прычыны Дзяржкамнац абагульніў матэрыялы па ўдзеле СПБ у палітычнай дзейнасці і накіраваў іх для прававой ацэнкі ў Міністэрства юстыцыі, а таксама ў Дзяржаўны камітэт па друку для вынясення пісьмовага папярэджання рэдакцыі газеты "Глос з-над Немна". У выніку Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей прапаноўвае ўраду прадпрыняць наступныя захады: "асноўную ўвагу надаць супрацоўніцтву" з іншымі польскімі аб'яднаннямі, якія "па розных прычынах адкалоліся ад СПБ"; "перамясціць супрацоўніцтва з СПБ" у "плоскасць", звязаную з існаваннем у цэнтральным кіраўніцтве СПБ "розных падыходаў і пунктаў погляду па ўсім спектры праблем" і незадаволенасцю кіраўнікоў некаторых мясцовых структур дзейнасцю цэнтральнага кіраўніцтва; "арганізаваць комплексную праверку польскамоўнай адукацыі ў рэспубліцы".

Дзяржкамнац таксама лічыць, што "наспела неабходнасць комплекснай праверкі гаспадарчай дзейнасці СПБ, у тым ліку ... размеркавання гуманітарнай дапамогі і сродкаў, атрымліваемых СПБ з-за мяжы". У закон "Аб грамадскіх аб'яднаннях" прапанавана "ўнесці змяненні, якія б забаранялі палітычную дзейнасць для нацыянальна-культурных аб'яднанняў". У Дзяржкамітэце па справах рэлігій і нацыянальнасцей БелаПАН пацвердзілі наяўнасць такога дакумента.

Што ж тычыцца Саюза палякаў Беларусі, то старшыня СПБ Тадэвуш Гавін пракаменціраваў дзеянні Дзяржкамнаца такім чынам: "Мы праявілі наіўнасць, мяркуючы, быццам бы Дзяржкамнац створаны для аказання дапамогі нацыянальна-культурным аб'яднанням... Камітэт падрыхтаваў ліст у Савет Міністраў Беларусі, каб задушыць нас".

**Марат ГАРАВЫ,**
**БелаПАН.**

Новости мирового криминала

# Свихнулся на почве отношений с подругой

Похоже, что американцы задались целью сами себя перестрелять. 15-летний парень из Джорджии, Томас Соломон, обвиняется в нападении при отягчающих обстоятельствах. Открыв огонь из пистолета в местной средней школе, он ранил шесть человек. Полиция изъяла у стрелявшего два ствола. Его друзья назвали в качестве мотива то, что он свихнулся на почве разрыва двухлетних отношений с подругой. Кроме этого, они рассказали, что Соломон обожает различное оружие и что его отчим имеет коллекцию пистолетов, доступ к которой вполне свободный.

Известно, что Соломон, который был бойскаутом, даже посещал церковь. Это еще раз говорит о том, что подобные преступления совершают не только изгои. Впрочем, Соломон выбрал не самое мощное оружие из арсенала. Защита говорит, что если бы он действительно хотел перестрелять людей, он точно выбрал бы что-нибудь посильнее.

Очевидно, будучи совершенно обычным учеником и страдая от этого, он пытался привлечь к себе внимание. Без сомнения, ему это удалось. Этот случай — лишнее свидетельство того, что отсутствие пары колец в носу или дюжины татуировок не может гарантировать стабильность поведения человека.

